# Народная газета

Жыві, Беларусь!

Орган Вярхоўнага Савета Беларускай ССР

№ 145 (158) 27 ліпеня 1991 г. Субота.

ВЫДАЕЦЦА З КАСТРЫЧНІКА 1990 ГОДА НА БЕЛАРУСКАЙ І РУСКАЙ МОВАХ.

Кошт: у розніцу — 10 кап. падпісны — 3 кап.


## Факты Аргументы Комментарии Суждения

### И Бог вам в помощь!

МОГИЛЕВ. **Состоялась встреча представителей церкви, могилевского городского комитета «Незалежнасць», горисполкома с сотрудниками германского фонда помощи «ОРА интернэйшнл».**

Директор восточного отделения фонда Виктор Перлау передал гуманитарную помощь, предназначенную в первую очередь обездоленным и малоимущим, поблагодарил за теплый прием. Представитель фирмы вручил сопроводительные документы отцу Константину, поручив распределение груза церкви.

### Девчонкам и мальчишкам, а также их родителям...

ОРША. **Местный дом санитарного просвещения «вступил на тропу войны» против тлетворного влияния порнофильмов, заполнивших оршанские видеосалоны.**

Он открыл собственный (и бесплатный) кинолекторий по половому воспитанию, где занятия проводятся два раза в неделю — отдельно для девочек и для мальчиков, а также для их родителей. По отзывам взрослых, беседы и научно-популярные фильмы им нравятся, дети же слегка посмеиваются над наивностью старшего поколения.

Между тем причин для смеха нет: в прошлом году 34 оршанские школьницы вынуждены были сделать аборт, еще столько же детей лечились у венерологов.

Рисунок Олега ПОПОВА.

### Плакали ваши доллары

ТОКИО. **Среди японских предпринимателей растет недоверие к Внешэкономбанку СССР—единственному банку в стране, занимающемуся инвалютными операциями, сообщает газета деловых кругов Японии «Нихон Кейдзай Симбун».**

Причина — нечеткая, не вызывающая доверия клиента работа банка. В качестве примера газета приводит следующий случай. В мае «Мицубиси седзи» и еще шесть японских фирм совместно с советскими дальневосточными партнерами создали совместное предприятие «Мирметалл» по переработке и последующему экспорту в Японию металлического вторсырья. В уставной фонд этого предприятия японские партнеры перевели через Внешэкономбанк 100 тыс. долларов. Следы этого перевода надежно затерялись в коридорах и сейфах советского монополиста на инвалютные операции.

### Что нам стоит дом построить?

ЖЛОБИН. **Договор на строительство жилья на сумму 8 млн. рублей заключен Белорусским металлургическим заводом с фирмой «Центрс» из Риги.**

Рижан искать работу за пределами своей республики заставляет сама жизнь. Кроме того, условия контракта взаимовыгодны. Заводчане в обмен на строительные материалы будут частично расплачиваться собственной продукцией.

В будущем году сотрудничество белорусских металлургов и рижан расширится. Фирма «Центрс» намерена сдать в заводских микрорайонах не менее 25 тыс. кв. м жилья, детский сад, развернуть строительство школы и поликлиники.

### Конференция все же прошла...

МИНСК. **Прошла конференция трудового коллектива автозавода.**

«Камнем преткновения» на ней стал поднятый в выпущенной стачкомом накануне листовке вопрос о необходимости выведения партийного и комсомольского комитетов за территорию предприятия и о запрещении аренды помещений МАЗа политическими организациями.

Не добившись включения в повестку дня вопроса о департизации, часть делегатов во главе со стачкомом покинула зал.

### Они и цветом золотые...

**Настоящий «лисичкин бум» прокатился по республике — на рынках этот незатейливый гриб почти не встретишь.**

То, что появляется в лесу, немедленно собирается и сдается на недавно открывшиеся приемные пункты совместных предприятий. Цена одного килограмма этих грибов там — 30 рублей. Приграничные рынки предлагают и дороже.

Интерес Запада к дарам наших лесов, по слухам, объясняется тем, что предприимчивые фирмы используют лисички для производства редких лекарственных препаратов.

...Когда-то Евтушенко посвятил стихотворение замороженным русским лягушкам, отбывающим на рефрижераторе в Париж. Он сравнил их со спящими царевнами. Эпитеты уезжающим от нас лисичкам пока не придуманы.

**Выпуск подготовлен по сообщениям Ирины ДЕРГАЧ, Михаила КИЛЕССО, Анатолия ГОТОВЧИЦА и агентства «ИНФОНОВОСТИ».**

**«Горячий» телефон 32-24-02 работает ежедневно с 9 до 11 часов.**

# МАЦАВАЦЬ ДЗЯРЖАЎНАСЦЬ ДОБРАСУМЛЕННАЙ ПРАЦАЙ

## Выступленне Старшыні Вярхоўнага Савета Беларускай ССР М. І. ДЗЕМЯНЦЕЯ на сходзе, прысвечаным Дню абвяшчэння Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай ССР

Дарагія суайчыннікі!

Заўтра беларускі народ адзначыць свята, якога не ведала Бацькаўшчына на працягу ўсёй сваёй гісторыі, аб ім марылі многія пакаленні людзей на гэтай зямлі.

27 ліпеня 1990 года Вярхоўны Савет Беларускай ССР прыняў Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце. Гэтым актам гістарычнай справядлівасці засведчана права на свабоду і нацыянальную незалежнасць нашага народа.

Ішлі мы да жаданага дня цяжка і доўга. Пасля зневажальнай для Беларусі Люблінскай уніі наш народ больш як 200 гадоў знаходзіўся пад кабалой польскіх феадалаў. і выйшаў з-пад прыніжэння і ўціску толькі ў канцы XVIII стагоддзя, калі адбылося ўз'яднанне беларускіх зямель з рускімі.

Разам з народамі Расіі наш народ працягваў жорсткую барацьбу за сваё вызваленне, змагаўся супраць прыгнёту царызму, ваяваў з іншаземнымі захопнікамі.

Спрадвечнае імкненне да сваёй свабоды і незалежнасці, святая вера на права жыць самастойна сталі здабыткам таго, што ніякая жорсткасць не магла зламіць народнага духу.

Вытрымаў беларускі народ і ўмовы Рыжскага мірнага дагавора, калі ў 1921 годзе да буржуазна-памешчыцкай Польшы адышлі тэрыторыі цяперашніх Гродзенскай і Брэсцкай, а таксама паўночна-заходніх раёнаў Мінскай і Віцебскай абласцей.

Як відаць, наш дэмакратызм мае сваю адвечную гісторыю. Высокая грамадзянская свядомасць, пачуццё нацыянальнай годнасці, абавязак перад братамі па духу ўзвышалі беларусаў заўсёды. На ўсіх крутых паваротах свайго лёсу не гублялі яны веры ў тое, што будуць «людзьмі звацца».

На новы ўзровень узнялася этнічная самастойнасць беларусаў пасля Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі.

Дух нашага народа ўмацавала абвешчаная палітычная роўнасць народаў, арганізаваны на добраахвотных пачатках саюз раўнапраўных суверэнных рэспублік.

Першага студзеня 1919 года Маніфестам Часовага рэвалюцыйнага рабоча-сялянскага ўрада была ўтворана БССР. 30 снежня 1922 года Беларусь увайшла ў састаў Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік. Гэта і прадвызначыла далейшы лёс нашай Бацькаўшчыны.

Жорсткай была барацьба за станаўленне савецкай дзяржаўнасці. Гады грамадзянскай вайны, потым сталіншчына і рэпрэсіі, нарэшце Вялікая Айчынная вайна панеслі з жыцця мільёны нявінных ахвяр. Ад праяў беззаконня, неабмежаванай сталінскай улады, бязлікіх перажытых трагедый пацярпелі цэлыя пакаленні беларусаў.

Такія жудасныя і нялёгкія вёрсты доўгага шляху да нашага сённяшняга свята. Мы нізка схіляем свае галовы перад усімі, хто праз віхуры суровых выпрабаванняў пранёс у сэрцы пачуццё нацыянальнага абавязку і веры ў свой народ, яго вялікую еднасць.

Светлая памяць аб героях фронту і тылу, усіх, хто адстойваў чэсць, свабоду і незалежнасць Айчыны! Аб тых, хто верыў у лепшы лёс роднай Беларусі.

Ушануем іх памяць мінутай маўчання.

Дзякуй.

Паважаныя таварышы!

Праз гады і адлегласці мы сёння як бы пераглядаем падзеі нашай нялёгкай гісторыі. Напярэдадні першай гадавіны прыняцця Дэкларацыі аб суверэнітэце зноў гаворым аб тым, што даўно вядома і не выклікае пярэчання, што ў свой час Канстытуцыяй СССР і Саюзным дагаворам 1922 года заканадаўча была вызначана рэальная магчымасць свабоднага палітычнага, эканамічнага і культурнага развіцця ўсіх нацый краіны.

Але час даў нам магчымасць пераканацца: да забеспячэння сапраўднага суверэнітэту аўтарытарна-бюракратычная і адміністрацыйна-камандная сістэма дзяржаўнага кіравання наогул не імкнулася. Наадварот, з кожным годам яна пашырала сферы свайго згубнага ўздзеяння, не пакідаючы месца рэгіянальнай самастойнасці і ініцыятыве. Цэнтр мала думаў аб нацыянальным адраджэнні рэспублік.

Заканамерна прыйшло разуменне таго, што без сапраўднай самастойнасці ў рамках савецкай федэрацыі нельга далей эфектыўна вырашаць свае праблемы. У гэтай сувязі наша Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце мае неаспрэчнае значэнне. За такі кароткі час немагчыма адчуць усёй яго велічы, бо сапраўдная дзяржаўнасць толькі яшчэ сцвярджаецца.

Але, заўважце, аднагалоснае прыняцце Дэкларацыі на сесіі Вярхоўнага Савета БССР яскрава засведчыла тое, што мы знайшлі найбольш аптымальную формулу суверэнітэту рэспублікі. Дэкларацыя ўрачыста абвяшчае дзяржаўны суверэнітэт Беларускай ССР, як вяршэнства, самастойнасць і паўнату дзяржаўнай улады рэспублікі ў межах яе тэрыторыі, правамоцнасць яе законаў, незалежнасць у знешніх зносінах, рашучасць стварыць прававую дзяржаву.

У той жа час знаходзяцца людзі, якія спрабуюць прынізіць значэнне гэтага дакумента. Адным здаецца, што Дэкларацыя вызначае вельмі сціплыя мэты. Некаторыя падвяргаюць сумненню смеласць яе канчатковых мэт, выражаюць недавер у адносінах далейшага свабоднага развіцця Беларусі.

Яны ніяк не жадаюць прызнаць таго факта, што Дэкларацыя на справе адлюстроўвае надзеі і спадзяванні беларускага народа, служыць зыходнай базай для канкрэтнай работы ва ўсіх сферах жыцця.

Яе ідэі выражаюць адвечную мару пакаленняў нашых людзей быць гаспадарамі ў сваім уласным доме, жыць свабодна і незалежна.

Наш суверэнітэт абараняе інтарэсы грамадзян усіх нацый, мацуе наша з імі жаданне жыць ў дружбе і згодзе. Абвяшчэнне незалежнасці ўспрынята большасцю нашых людзей як адвечная надзея на ўсебаковае развіццё нацыянальнай і духоўнай культуры.

Памяць народа з удзячнасцю захавала імёны геніяў духу, каго ўзрасціла ідэя дзяржаўнасці Беларусі. Мы прыносім даніну пашаны светачам нацыянальнай самасвядомасці беларусаў: Францішку Скарыну, Кастусю Каліноўскаму, Вінцэнту Дуніну-Марцінкевічу, Францішку Багушэвічу, Цётцы (Элаізе Пашкевіч), Янку Купалу, Якубу Коласу, Максіму Багдановічу...

Многае зрабілі ў справе нацыянальнага адраджэння і наступныя пакаленні дзеячаў беларускай культуры. Дастойны ўклад у гэта ўнеслі сваёй літаратурнай творчасцю Аркадзь Куляшоў, Пятрусь Броўка, Максім Танк, Іван Мележ, Іван Шамякін, Васіль Быкаў, Ніл Гілевіч і многія іншыя.

У барацьбе за свабоду і незалежнасць сваё слова сказалі выдатныя сыны іншых народаў нашай шматнацыянальнай краіны. Шчырая падзяка ўсім, хто ў цяжкіх умовах жыцця адраджаў і бярог ідэі свабоды, справядлівасці і братцва народаў.

У нашых людзей ёсць поўнае разуменне таго, што з аднаго абвяшчэння рэальнага суверэнітэту нам ніколі не мець. Яго рэальнасць можа гарантаваць толькі добрасумленная праца кожнага.

І ў цяперашніх складаных умовах большасць суайчыннікаў сумленна працуе на карысць грамадства. Яны жывуць добрай надзеяй на тое, што хопіць у нас моцы вырашыць свае праблемы. Трэба толькі свядомасць і высокую адказнасць праявіць усім грамадзянам рэспублікі.

Ёсць у нашых людзей і разуменне таго, што цяжка ідуць пакуль што працэсы абнаўлення. Не прыносіць хутка жаданых вынікаў эканамічная рэформа. Рэспубліка яшчэ не выйшла на патрэбны ўзровень вытворчасці тавараў і будаўніцтва жылля.

З абвяшчэннем суверэнітэту Беларускай ССР рэспубліканскія органы ўлады ў поўнай меры нясуць адказнасць за ўсё гэта. На іх сумленні і стварэнне неабходных прававых, палітычных і эканамічных умоў для вырашэння гэтых праблем.

Новыя абставіны прадвызначылі заканатворчую дзейнасць Вярхоўнага Савета, работу ўрада рэспублікі. Зыходзячы з прынцыпаў Дэкларацыі, інтарэсаў народаўладдзя, узяты цвёрды курс на пабудову прававой дзяржавы.

Вярхоўны Савет за прайшоўшы час прыняў 442 прававыя акты, з якіх — 67 законаў. Яны вызначаюць канстытуцыйную аснову нашай дзяржаўнасці, ставяць мэтай сцвярджэнне дэмакратыі, развіццё самакіравання. У іх ліку — пакет нарматыўных актаў па эканамічнай незалежнасці Беларусі.

Ужо на другой нечарговай сесіі Вярхоўнага Савета быў зроблены канчатковы выбар, арыентаваны на стварэнне ў рэспубліцы новага гаспадарчага механізма, укараненне рынычных адносін.

Лагічным працягам прававога зацвярджэння эканамічнага суверэнітэту рэспублікі з'яўляюцца заканадаўчыя акты, якія прыняла трэцяя сесія. Сярод іх — Кодэкс Беларускай ССР аб зямлі, законы аб уласнасці, аб арэндзе, аб прадпрыемствах, аб нацыянальным банку, аб банках і банкаўскай дзейнасці, аб мясцовым самакіраванні і мясцовай гаспадарцы, аб сялянскай (фермерскай) гаспадарцы, некаторыя іншыя.

Мы сёння маем поўную надзею на тое, што суверэнітэт дазволіць рэспубліцы развязаць многія складаныя вузлы яе сацыяльна-эканамічных праблем. Ствараючы яго прававую базу, Вярхоўны Савет вызначае заканадаўча напрамкі тых або іншых пераўтварэнняў, умовы і нормы іх рэалізацыі.

Узяць той жа Закон «Аб уласнасці ў Беларускай ССР». Ён мае сваёй мэтай стварэнне многаўкладнай эканомікі, заснаванай на разнастайнасці раўнапраўных форм уласнасці. Ім гарантаваны магчымасці індывідуальнага і калектыўнага прадпрымальніцтва, акцыянерныя таварыствы, народныя і сумесныя прадпрыемствы з удзелам зарубежных партнёраў.

Атрымаўшы юрыдычнае права на дзейнасць, новы гаспадарчы механізм у рэспубліцы набывае рэальнае аблічча. Ёсць надзея, што хутка гэта прынясе і свае станоўчыя вынікі.

На пераадоленне харчовага крызісу ў нашым грамадстве накіраваны законы аб правядзенні зямельнай рэформы. Некаторыя я ўжо называў. Прыняты чацвёртай сесіяй Закон «Аб прыярытэтным развіцці сяла і аграпрамысловага комплексу» вызначае цэлы шэраг неадкладных практычных мер па ўсяму спектру праблем вёскі. У тым ліку па паляпшэнню фінансавага і эканамічнага становішча калгасаў і саўгасаў і іх паскоранаму сацыяльнаму развіццю. Пакет гэтых прававых актаў у цяперашняй складанай эканамічнай сітуацыі прызваны ўмацаваць у сялян веру ў свае сілы.

Каб ідэі дакументаў былі ўвасоблены ў рэальныя справы, вёсцы трэба дапамога ўсіх — дзяржавы ў цэлым і кожнага з нас паасобку. І больш за ўсё — звычайная павага да нялёгкай і так неабходнай працы яе людзей. Сёння няма больш адказнай справы, чым своечасова ўбраць вырашчаны ўраджай і забяспечыць людзей харчаваннем.

Паважаныя таварышы!

У аснове зацвярджэння суверэнітэту ляжыць неабходнасць усталявання на нашай беларускай зямлі нармальнага, дастойнага жыцця, дабра і справядлівасці. Каб чалавек на справе адчуў клопат аб ім. Каб яму дзяржавай былі гарантаваны ўсе неабходныя канстытуцыйныя ўмовы.

Вядома, гэта справа не аднаго дня і нават года. Пакуль яшчэ ўсім нам будзе цяжка, складана, і трэба быць гатовым да таго, каб перажыць усе цяжкасці.

Няпроста цяпер і Вярхоўнаму Савету рэспублікі. Зыходзячы з патрабаванняў Дэкларацыі, ён паклаў у аснову сваёй дзейнасці клопат аб сацыяльнай абароненасці чалавека, зацвярджэнні справядлівасці ў жыцці грамадства.

Аб гэтым сведчаць і прынятыя ім дзяржаўныя акты, сярод якіх законы аб занятасці насельніцтва, аб індэксацыі даходаў насельніцтва з улікам інфляцыі, пастанова «Аб рэформе рознічных цэн і сацыяльнай абароне насельніцтва» і некаторыя іншыя.

Па нашых законах прыняты цэлы рад урадавых пастаноў, ажыццяўленне якіх дазволіла ў многім змякчыць удар і таго ж павышэння рознічных цэн для многіх груп жыхароў рэспублікі.

Сёння мы ўжо маем усе падставы гаварыць аб стварэнні ў рэспубліцы цэлай сістэмы сацыяльнай абароненасці. Прававыя эканамічныя і арганізацыйныя асновы дзяржаўнай палітыкі ў гэтым напрамку вызначаны такімі дзяржаўнымі актамі, як Закон «Аб сацыяльнай абароне грамадзян, якія пацярпелі ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС», пастанова «Аб дадатковых мерах па паляпшэнню аховы мацярынства і дзяцінства ў Беларускай ССР», законы «Аб сацыяльнай абароне інвалідаў», «Аб часовых мерах па абароне спажывецкага рынку» і некаторыя іншыя.

Сённяшнія праблемы паставілі ў надзвычай складанае становішча нашу моладзь. Каб абараніць падрастаючае пакаленне ад стыхіі рыначных адносін, Вярхоўны Савет рэспублікі настойліва працуе над Законам «Аб дзяржаўнай маладзёжнай палітыцы ў Беларускай ССР». У першым чытанні праект дакумента разгледжан на чацвёртай сесіі.

Гаворачы аб эканамічным і палітычным забеспячэнні прынцыпаў Дэкларацыі, нельга не сказаць аб той рабоце, якую правёў за прайшоўшы час Вярхоўны Савет па рэканструкцыі нашага дзяржаўнага механізма.

Рэальным напаўненнем зместу яе суверэнітэту сталі законы «Аб асноўных прынцыпах народаўладдзя ў Беларускай ССР» і «Аб мясцовым самакіраванні і мясцовай гаспадарцы ў Беларускай ССР». У аснову іх пакладзена ўзгодненае развіццё дзвюх узаемадзеючых арганізацыйна-прававых форм мясцовага самакіравання — дзяржаўнага і грамадскага пры заканадаўчым вызначэнні сфер іх дзейнасці і паўнамоцтваў.

Законамі вызначана сістэма і эканамічная база мясцовага самакіравання, замацаваны асновы прававога становішча мясцовых органаў дзяржаўнай улады і кіравання.

Наогул усе наступныя законы і пастановы прымаліся Вярхоўным Саветам рэспублікі толькі зыходзячы з Дэкларацыі аб суверэнітэце з улікам думкі народа. Гэта можна сказаць аб законах «Аб статусе народнага дэпутата Беларускай ССР», «Аб народным галасаванні (рэферэндуме) у Беларускай ССР» і цэлым радзе іншых.

У Дэкларацыі вялікая ўвага ўдзелена адраджэнню нацыянальнай культуры Беларусі, яе мовы, народных промыслаў, рамёстваў. Усе гэтыя пытанні таксама не застаюцца без увагі ў Вярхоўным Савеце. Беларусь першай сярод саюзных рэспублік прыняла Закон «Аб культуры», якім вызначаны арганізацыйна-прававыя і эканамічныя гарантыі адраджэння нацыянальнай культуры, захавання яе самабытнасці, цэласнасці, стварэння спрыяльных умоў для яе далейшага развіцця.

У парадку дня наступнай сесіі і праект Закона «Аб ахове і захаванні гісторыка-культурнай спадчыны».

У першым чытанні таксама разгледжаны праект закона аб адукацыі.

На чацвёртай сесіі Вярхоўнага Савета рэспублікі зацверджана Дзяржаўная праграма ўрада Беларускай ССР па стабілізацыі эканомікі і сацыяльнай абароне насельніцтва.

Па нашаму глыбокаму перакананню, рэалізаваць увесь комплекс прадугледжаных мер у адрыве ад іншых саюзных рэспублік будзе не проста. Рэальная самастойнасць Беларусі можа быць дасягнута толькі праз паступовыя, добра прадуманыя рэформы і толькі ў саюзе з іншымі рэспублікамі.

У ходзе вясенняга рэферэндуму наш народ адназначна выказаўся за захаванне Саюза. Мы ўжо атрымалі ўрок таго, да чаго можа прывесці яго распад. Хочацца верыць, што момант пакутлівага непаразумення праходзіць.

На сесіі Вярхоўнага Савета рэспублікі разглядаўся праект Саюзнага дагавора, выказвалася многа заўваг і прапаноў. Яны ў большай меры адносіліся да размежавання паўнамоцтваў рэспублік і Саюза, кампетэнцыі іх органаў улады і кіравання.

Ведаеце вы і аб той вялікай рабоце, якая праведзена ўрадам рэспублікі па ўстанаўленню гарызантальных дагаворных зносін Беларусі з іншымі суверэннымі дзяржавамі. Гэта ў значнай меры дазволіла стабілізаваць эканамічныя зносіны, спыніць развал гаспадарчых сувязей з радам рэгіёнаў. Тым не менш вастрыня праблемы застаецца і сур'ёзна хвалюе. У гэтых мэтах Вярхоўны Савет пайшоў на тое, каб прадставіць Савету Міністраў рэспублікі дадатковыя паўнамоцтвы на гэты і наступны год.

Кожнаму павінна быць зразумела, што без сур'ёзных намаганняў і дасягненняў у эканоміцы і культуры рэспубліка не зможа стаць па-сапраўднаму суверэннай дзяржавай. Выступаючы за падпісанне Саюзнага дагавора, мы не перадаём сябе механічна ў падпарадкаванне цэнтра, а на ўзаемавыгадных умовах замацоўваем сваё супрацоўніцтва. Каштоўнасці рэальнага суверэнітэту ствараюцца толькі багаццем эканамічнай узаемазалежнасці. Кансалідуючым пачаткам у гэтым з'яўляецца так званая «заява дзесяці».

Наогул жа работа над дагаворам — гэта праца важная і складаная. Усё трэба было ў тысячы ўмоў прадумаць, параўнаць, прадугледзець. Цяпер гэта работа завершана, па ўсіх пазіцыях узаемаадносін рэспублік і цэнтра знойдзена згода. Ёсць поўная ўпэўненасць, што мы становімся гаспадарамі свайго лёсу, сваёй працы, сваёй культуры, усяго жыцця.

Аб гэтым, у прыватнасці, сведчыць і той факт, што палажэнне артыкула сёмага Дэкларацыі аб суверэнітэце абвяшчаюць вяршэнства Канстытуцыі і законаў Беларускай ССР на тэрыторыі рэспублікі.

Практычным крокам у ажыццяўленні абвешчанага Дэкларацыяй суверэннага права рэспублікі з'яўляецца таксама прыняцце Закона «Аб мерах па абароне інтарэсаў Беларускай ССР пры вырашэнні пытанняў, звязаных з дзейнасцю прадпрыемстваў і арганізацый саюзнага падпарадкавання, якія размешчаны на тэрыторыі рэспублікі».

Чалавек — вышэйшая сацыяльная каштоўнасць. Гэтая ісціна пакладзена ў канцэпцыю новага Асноўнага Закона рэспублікі, актыўная работа над стварэннем якога вядзецца зараз.

Пытанне аб новай Канстытуцыі рэспублікі было пастаўлена яшчэ на першай сесіі Вярхоўнага Савета дванаццатага склікання. Мінулым летам да работы над праектам Асноўнага Закона прыступіла Канстытуцыйная камісія. За прайшоўшы год яна дэталёва адпрацавала ўсе 165 яго артыкулаў.

Гэты праект разгледзіць наступная пятая сесія Вярхоўнага Савета рэспублікі. Ён будзе апублікаваны ў перыядычным друку і вынесены на абмеркаванне жыхароў Беларусі.

У Канстытуцыі на дэмакратычнай аснове замацоўваецца ідэя народаўладдзя, прадугледжваецца чоткае раздзяленне дзяржаўнай улады на заканадаўчую, выканаўчую і судовую.

Новая Канстытуцыя рэспублікі стане юрыдычнай асновай рэалізацыі Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце. Вось чаму на адказным этапе падрыхтоўкі праекта гэтага дакумента неабходна праявіць выключную ўвагу і мудрасць кожнаму грамадзяніну, унесці свой уклад, каб усе раздзелы новай Канстытуцыі адпавядалі лёсу народа, лёсу рэспублікі.

Паважаныя таварышы!

Прыняўшы Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце, мы заявілі аб тым, што Беларусь цяпер суверэнная і раўнапраўная дзяржава. На аснове гэтага падпісаны і ратыфікаваны нашы дагаворы з Расіяй, Украінай, Казахстанам, а таксама міжурадавыя пагадненні са Славеніяй, гандлёвыя — з Балгарыяй, Чэха-Славакіяй, КНДР.

Завяршаецца работа па заключэнню пагадненняў на ўзаемны гандаль з Венгрыяй, Польшчай, Сербіяй і Германіяй.

Зроблены першыя крокі па ўстанаўленню прамых сувязей Вярхоўнага Савета Беларускай ССР з парламентамі Аўстрыі, Венгрыі, ЗША і Польшчы.

Рэспубліка цяпер самастойная ў пытаннях правядзення і рэгулявання сваёй знешнеэканамічнай дзейнасці. Мы наладжваем такія палітычныя, эканамічныя, гандлёвыя і іншыя сувязі, якія маюць большасць дзяржаў свету.

Заявіць аб сабе на міжнароднай арэне Беларусі дае магчымасць яе прадстаўніцтва ў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Яно садзейнічае пазнанню сусветнага вопыту ў міжнародных адносінах.

Прыняўшы Закон «Аб асновах знешнеэканамічнай дзейнасці Беларускай ССР» і разгледзеўшы ў першым чытанні праекты законаў «Аб зарубежных інвестыцыях на тэрыторыі Беларускай ССР», а таксама «Аб парадку заключэння, выкарыстання і дэнансацыі міжнародных дагавораў Беларускай ССР», мы гэтым ствараем прававую аснову сваёй міжнароднай дзейнасці.

Падводзячы вынік першага года жыцця рэспублікі ва ўмовах суверэнітэту, хачу сказаць, што далей Беларусь будзе ісці шляхам, які абраў народ. Мэты ў нас ясныя. У палітычнай сферы яны вызначаюцца імкненнем да збліжэння ўсіх палітычных, грамадскіх плыняў і рухаў.

У эканоміцы мы трымаем цвёрды курс на паслядоўнае правядзенне рэформ, разумнае раздзяржаўліванне ўласнасці для больш эфектыўнага яе выкарыстання, надзейную сацыяльную абароненасць насельніцтва, усебаковае развіццё сувязей з братнімі рэспублікамі і замежнымі краінамі.

У прававой сферы будзем цвёрда адстойваць інтарэсы асобы, народа, развіваць сваю дзяржаўную незалежнасць.

Адраджэнне сацыяльнай свядомасці народа, усебаковае развіццё культуры і мовы, мастацтва, прыцягненне да гэтага ўсіх творчых сіл і царквы — такі напрамак выбран у духоўнай сферы.

У імя гэтага мы павінны ісці разам і ўпэўнена, не шкадаваць сваіх духоўных і фізічных сіл. Трэба дабівацца згоды і ўзаемаразумення, цвёрда адстойваць свае кроўныя інтарэсы, мацаваць дысцыпліну, арганізаванасць і парадак, сумленнай працай кожнага прымнажаць нацыянальнае багацце.

Мы павінны памятаць аб сваёй адказнасці перад продкамі і нашчадкамі. У імя гэтага нашай роднай Беларусі зробім усё, каб яна сталела і адраджалася пад сцягам сваёй дзяржаўнасці.

Дзякуй усім за ўвагу.

